Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтарэсантаў: у Сэкратар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 7 (95) | Вільня, 19-га чэрвеня 1936 г. | Год 4-ты.

## Будаваўся беларускі дом!

**„Будуецца беларускі дом!“** паўтаралі некалі ўсе беларусы ды цешыліся.

Ня падумайце толькі, што я тут паўтараю сказ, кінены некалі з соймавае трыбуны паслом Тарашкевічам аб разбудове БССР. Не, я прыпомніў толькі тое, што тварыласа шмат пазьней — у 1929, здаецца, годзе, калі пачалі будаваць дом пад Навагрудзкую Беларускую Гімназію.

Гэта не маскоўскія апякуны для абдурманваньня беларускіх масаў, там за Рыжскаю мяжою, прылучалі Гомельшчыну ды будавалі Беларускую Акадэмію, каб праз нейкі час адным махам скончыць з усёю пачатаю імпрэзаю, а гэта **беларускі сярмяжны народ сам сабе** будаваў сваю **„сьвятыню“ культуры**. Абліваючыся потам, з крывавымі мазалямі на руках працавалі вучні з сваімі настаўнікамі, раўняючы няроўную паверхню ды капаючы равы на фундамант свае „сьвятыні“, працавалі мужчыны і жанчыны з вёсак Навагрудчыны, возячы каменьні за 30-50 кілёмэтраў, працавалі ўсе беларускія грамадзкія ўстановы, зьбіраючы ахвяры грашыма, жытам, бульбаю ды іншымі прадуктамі на сваю „Сьвятыню“.

Гэную працу, запал і самаахвярнасьць бачылі ўсе, а першы, здаецца, прыкмеціў яе ды належна ацаніў тагачасны Навагрудзкі Ваявода — п. З. Бэчковіч.

Саматужныя высілкі беларускага грамадзянства прычыніліся да таго, што Ваявода Бэчковіч зацікавіўся гэнаю справаю бліжэй ды з свайго боку прыйшоў з пэўнаю грашова дапамогаю беларусам ад імя польскага Ураду.

Памятны той урачысты дзень, калі закладзіны першага каменя пад гэны дом адбываліся ў прысутнасьці самога п. Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі праф. Ігната Масьціцкага, пры ўдзеле некалькіх міністраў Ураду, паслоў, сэнатараў ды розных вышэйшых прадстаўнікоў адміністрацыі на чале з успомненым Ваяводаю Бэчковічам.

Здавалася тады, што фундамант пад першы „беларускі дом“ у Польшчы паложаны сапраўды моцны, бо-ж асьвяціў яго ня толькі Уладыка Аляксей, але і першы найвышэйшы Грамадзянін Польскае Рэспублікі — яе Прэзыдэнт.

Праходзілі аднак гады, а пачаты «дом» ніяк нельга было кончыць. У беднага беларускага грамадзянства было шмат запалу, але мала грошай.

Прызнаную Урадам субвэнцыю неяк цяжка было атрымаць — капала, як кажуць, у гадзіну па сталовай лыжцы, вэксалі, жыраваныя беларускімі настаўнікамі ды іншымі грамадзкімі дзеячамі, пайшлі ў пратэсты... У рэзультаце сплачвалі іх ратамі з адлічак ды розных дробных ахвяраў. Ваявода Бэчковіч выехаў з Наваградку, а пасьля і з Польшчы ў Рыгу. Прышлі іншыя ды адразу прыступілі да іншай працы.

Замест даканчэньня пачатае працы павялі новую — палалі будаваць падкоп, зразумела не пад пачаты дом, а пад душу, так сказаць, гэнага дому — пад Навагрудзкую Гімназію. Новая праца новае адміністрацыі пайшла шыбкім тэмпам, а ў выніку — **Навагрудзкую** Беларускую Гімназію ўлады зьліквідавалі. Зьліквідавалі тады, калі ўжо частка будыніны была гатовая; што праўда, не магла памясьціцца там яшчэ гімназія, але год месьцілася там бурса — жылі вучні.

Пасьля ліквідацыі гімназіі застаўся аднак дом — **беларускі дом**, у каторым, нажаль, ужо ня чутно беларускае мовы.

А што-ж будзе далей? Ці-ж той дом, каторы асьвяціў сваею прысутнасьцяй сам сучасны Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі, можа зьмяніць сваё прызначэньне?

Ходзяць чуткі, што яго хочуць забраць пад польскую гімназію. Ня хочацца верыць, каб гэныя чуткі мелі якую-небудзь рэальную падставу.

Навагрудчына — гэта-ж беларускае мора і беларусы павінны мець свой дом у Наваградку, тым больш, што гэта ня звычайная хата, а гістарычны беларускі дом. Скрыўдзілі ў свой час навагрудзкіх беларусаў, забіраючы з Наваградка беларускую гімназію, але крыўда ня можа цягнуцца без канца.

Беларусы павінны мець у Наваградку ня толькі свой гістарычны, асьвячаны Прэзыдэнтам дом, але і сваю беларускую школу ў гэтым доме.

Ці гэта будзе гімназія, ці ліцэй, ці нейкая іншая школа — гэта пытаньне другое, але ў беларускім доме павінна быць **беларуская школа.**

Гэтага вымагаюць ужо ня толькі нашыя беларускія справы і патрэбы — гэтага вымагае прэсьціж Дзяржавы.

Тыя, хто пастаўлены на стражы дзяржаўных інтарэсаў, павінны аб гэтым памятаць.

А да п. Сэнатара З. Бэчковіча мы зварочваемся гэтым шляхам з просьбай яшчэ раз зацікавіцца, хоць ужо з далёкае Варшавы, тэй справай, якой ў свой час ён аддаў з карысьцяй столькі ўвагі і прыхільнасьці.

*Эра.*

## Савецкая канстытуцыя.

Аб тым, што ў СССР рыхтуецца новая канстытуцыя з парлямантам, пісалася ўжо даўно, таксама як і аб тым, што ўсю гэтую справу ўзяў пад сваю высокую апеку сам чырвоны дыктатар.

Цяпер ужо ведамы яе асновы. Улада, аднак, не сьпяшаецца з правядзеньнем гэтых асноваў у жыцьцё: яна публікуе проект дзеля таго, каб „савецкае грамадзянства“ магло яго да глыбокай восені абсудзіць, пасьля „найвышэйшы, законадаўчы орган“ разгледзіць яго — і тады будзе ведама, калі атрымае Савецкая Расея парлямант.

Паводле проекту новай канстытуцыі мае быць утворана Вярхоўная Рада СССР, якая дзеліцца на дзьве палаты: Саюзную і Нацыянальную. Прэзыдэнт як і В. Рада СССР выбіраюцца агульным, беспасярэднім, роўным і тайным галасаваньнем на 5 гадоў. Парляманцкія сэсыі будуць адбывацца два разы ў год. Толькі Вярхоўная Рада мае законадаўчае права і, як найвышэйшы дзяржаўны орган, мае шырокія паўнамоцтвы: — абвешчаньне вайны, заключэньне міру, падпісваньне міжнародных дагавораў, зьмены на становішчах вышэйшага камандаваньня і г. д.

Дэпутатам Вярхоўнае Рады абясьпечваецца асабістая нятыкальнасьць.

Царква аддзелена ад дзяржавы, а школа ад царквы.

Канстытуцыя гарантуе свабоду веравызнаньняў і свабоду антырэлігійных выступленьняў. Гарантуецца таксама свабода друку, сабраньняў і саюзаў.

Калхозы атрымоўваюць зямлю на вечнае ўладаньне. Дазваляецца прыватнае земляўладаньне і прыватная ўласнасьць.

У склад СССР уваходзяць 11 рэспублікаў. Кожная рэспубліка мае сваю канстытуцыю і мае права выхаду з Саюзу.

Камуністычная партыя зьяўляецца ядром усіх грамадзкіх і дзяржаўных арганізацыяў. Усім грамадзянам абясьпечваецца асабістая свабода. нятыкальнасьць памяшчэньня і тайна корэспондэнцыі.

Гарантуецца права азылю чужаземцам.

Вайсковая павіннасьць абавязвае ўсіх.

Усе грамадзяне, асягнуўшыя 18 гадоў веку, маюць актыўнае і пасыўнае выбарнае права. прычым армія так-жа прыймае ўчасьце ў галасаваньні.

Аналізуючы ўсе 13 §§ канстытуцыі можна сьцьвердзіць, што самымі важнымі зьменамі ў дасюлешнім савецкім ладзе зьяўляюцца: 1) зьніштажэньне ЦИК-а, ВКПБ і гадавых кангрэсаў саветаў, 2) выдзяленьне Грузіі ў асобную рэспубліку з далучэньнем да яе Абхазіі і Аджарыі і 3) сьціслае акрэсьленьне дзяржаўных прэрогатываў (правоў) паасобных органаў, а такжа правоў грамадзяніна.

У проекце новай канстытуцыі нідзе не гаворыцца аб „дыктатуры пралетарыяту“, а толькі аб „савецкай дэмократыі“.

Ці-ж сапраўды гэтак будзе?

Хутчэй хіба мае слушнасьць Мілюкоў, які апісваючы новую канстытуцыю ў „Послѣдних Новостях“ у Парыжы сказаў: „Чытаючы канстытуцыю Сталіна, хочацца крыкнуць: а чаму-ж не перанясьці цяпер нашае газэты ў Маскву, калі ўсе свабоды друку, а нават бясплатная папера для газэтаў цяпер там гарантаваны. Аднак пасьля сумленных студыяў Сталінскай канстытуцыі даходзім да пераканаьня, што лепш будзе, калі адсрочым падарожжа і калі газэта наша будзе надалей выходзіць... у Парыжы“.

І мае рацыю Мілюкоў, бо проект новай канстытуцыі вельмі лоўка пабудаваны. Канстытуцыя зьмяшчае ў сабе *самыя дэмократычныя рысы* (агульнае, беспасярэдняе, роўнае, тайнае выбарнае права, недапушчэньне арышту бяз судовай ці пракурорскай пастановы і г. д.) з *зусім недэмократычным спосабам* выстаўленьня кандыдатаў у будучы парлямант. Як ведама, гэтае права будзе належыць арганізацыям, якія зьяўляюцца экспозытурамі Сталіна. Ніхто не паверыць у забарону арыштаў адміністрацыйным парадкам, г. зн. у зьніштажэньне асноўнога права ГПУ. Усякі вельмі добра зразумее, што *савецкі суд*, як і *савецкая пракуратура*, зьяўляюцца такімі-ж „караючымі“ органамі, як і само ГПУ.

Газэта „За коммунистическое просвещение“ піша: „Новая Сталінская канстытуцыя мае важнае міжнароднае значэньне і зьяўляецца прыкладам для народаў усяго сьвету, як урад раз на заўсёды скінуў з сябе капіталістычны гнёт і эксплёатацыю“.

Трэба мець сапраўды „камуністычны“ тупэт, каб чмуціць людзей падобнай фразэолёгіяй. Аказваецца, што толькі цяпер, калі Саветы гнуць што раз больш „імпэрыялістычную лінію“, Сталін сваім папяровым проектам стварыў рай для рознашорстнага насельніцтва Саветаў.

Больш шчыра піша „Рабочая Москва“. Яна кажа, што Сталінская канстытуцыя павінна стацца моцным аружжам... у яго руках.

І сапраўды, было б наіўна ўяўляць сабе, каб дыктатар сталінскага тыпу жадаў агранічыць сваю ўладу. У нашыя, няпэўныя часы дыктатура прыдумляе ня раз нязвычайныя формы для ўзмацненьня сваёй магутнасьці. Яна карыстаецца гэнымі прыдуманымі формамі тады, калі *ўнутраныя* або

*міжнародныя абставіны* прадстаўляюць для яе сур'ёзную небясьпеку. Сталін, рэалізуючы паступова свае імпэрыялістычныя імкненьні, мусіць адначасна агранічваць уплыў камуністычнай партыі. Ня хочучы аднак ахвяраваць хаця б малой часткі сваёй магутнасьці, ён прабуе стварыць для яе, для гэнай неаграначанай улады, новую апору — *шырокія масы*, выбарную волю якіх,—захоўваючы ў сваіх руках увесь „караючы“ і запужваючы апарат,—можа лёгка сабе падпарадкаваць. Гэта ясна і не падлягае ніякай спрэчцы.

Для нас гэта вельмі важна, бо можа стацца тое, што якраз гэная „дэмакратычная“ канстытуцыя, якая дае быццам значныя правы паасобным рэспублікам, будзе іх загубай, у тым ліку і БССР.

Бо-ж ясна, што Сталін, як толькі абапрэ сваю ўладу на шырокіх масах і гэтым самым яшчэ больш яе ўзмоцніць, прыступіць куды з большай чымсь дагэтуль энэргіяй да зьдзейсьненьня ідэалу „единой неделимой“. Камунізм і камуністычная партыя зьвядзецца ў Саветах да нуля. Ідэя Маркса будзе выключна таварам, прызначаным на экспарт, а Комінтэрн — аружжам у руках імэрыялістычнай палітыкі Расеі. *Ма.*

## Аб культурнай працы на вёсцы.

Разглядаючы цяжкое гаспадарчае палажэньне вёскі, сучасны Урад зусім слушна зьвярнуў увагу на нявысокі культурны ровень вёскі, які між іншым прычыніўся да вытварыўшагася палажэньня на вёсцы. Людзей што год прыбывае, колькасьць-жа зямлі астаецца тая самая, і таму толькі пры лепшай, больш умелай, больш культурнай гаспадарцы можа жыхарства вёскі прахарчавацца, ці прынамся не галадаваць. Што гэта так, можна бачыць хоць-бы на прыкладзе тэй розьніцы ў спосабе гаспадаркі, якая існуе ў Пазнаншчыне і ў нас, бо-ж і там і тут зямля прыблізна аднолькавая, а яе ураджайнасьць розная і гэта таму, што спосаб гаспадаркі ў Пазнаншчыне шмат лепшы чымся ў нас. Зразумела, што вінаваты ў гэтым ня столькі нашыя сяляне - гаспадары, колькі тыя, хто імі апякаваўся і ў першую чаргу царскі расейскі ўрад, які вельмі мала зрабіў дзеля падняцьця культурнага роўня і сваёй расейскай вёскі, а тым больш нашай беларускай, бо-ж царскі ўрад памылкова будаваў трывалкасьць свайго панаваньня на цемнаце сялянскіх масаў.

Праўда, культурны ровень нашае вёскі цяпер вышэйшы, чымся да вайны, апе гэта сталася дзякуючы тэй нявольнай вандроўцы, на якую былі змушаны нашыя сяляне ў часе вайны, калі маглі прыгледзіцца да іншага жыцьця і потым, вярнуўшыся дамоў, палепшыць спосаб гаспадараваньня. Аднак абставіны сучаснага жыцьця вымагаюць с т а л а г а палепшаньня спосабаў гаспадаркі, што магчыма толькі пры падняцьці агульнага культурнага роўня, чаго дагэтуль ня было.

Хоць нямала розных культурна-асьветных арганізацыяў, амаль выключна польскіх, стараецца вясьці працу ў нашай вёсцы, аднак культурны ровень вёскі астаецца амаль той самы, які быў раней, і гэта таму, што ўся праца вядзецца ў незразумелай нашаму народу мове, што гэная праца адскаківае ад нашых людзей, як гарох ад сьцяны, і таму гэтую працу можна прыраўняць да таўчэньня вады ў ступе.

Ад такога таўчэньня вада можа крыху і нагрэецца, але стравы з яе ніколі ня будзе. Так і з культурна - асьветнай працы розных польскіх арганізацыяў у нашай вёсцы няма амаль аніякай карысьці ані сялянам, ані Дзяржаве. Прычына-ж такога зьявішча знаходзіцца перадусім у перамяшаньні паняцьцяў сярод ніжэйшых прадстаўнікоў рознага роду адміністрацыі. Як ведама, у іх паняцьце „беларусь“, „беларускае“ роўназначна, калі не з паняцьцем „камуніст“, „камуністычнае“, то абавязкова з паняцьцем „антыпаньствовец“, „выврòтовец“. Як убіла ў галаву гэтакі пагляд на беларускую справу некалі, у часы свайго валадарства, польская эндэцыя, так і астаўся ён шмат дзе сярод ніжэйшай адміністрацыі, ня глядзячы на, здавалася-б, вельмі радыкальныя зьмены гэнага пагляду сярод разумных і шчырых польскіх дзяржаўных патрыётаў.

Вось-жа кожны, хто шчыра думае аб патрэбе падняцьця культурнага роўня беларускае вёскі, мусіць перадусім падумаць над тым, як зьвясьці гэтую недарэчную эндэцкую спадчыну, якая дасюль паралізавала ўсялякую карысную і для народу і для Дзяржавы працу ў нашай вёсцы. Здарэньні апошніх гадоў і асабліва апошніх месяцаў яскрава паказалі, што ня ўсё тое, што зьяўляецца польскім, ёсьць на сто працэнтаў „панствовае“, „дзяржаўнае“, як ізноў-жа ня ўсё беларускае зьяўляецца „антыпанствовым“, „антыдзяржаўным“. Гэта мусяць урэшце зразумець усе тыя, каму сапраўды дорага, хто шчыра клапоціцца ня толькі аб цяперышчыне, але і аб будучыні Дзяржавы.

Розныя „сэзаноўцы“, „кар'ерысты“, якія ня зусім пэўныя ў трывалкасьці сучасных настрояў і маюць на ўсякі выпадак запасную ідэолёгію і дзейнасьць, не павінны перашкаджаць у працы сапраўдных патрыётаў і тады справа культурнага разьвіцьця нашае вёскі можа т р а п і ц ь на належны шлях, ад чаго будзе супольная карысьць.

## Расейцы і царкоўнае пытаньне ў нашым краі

Паміж газ. „Русское Слово“ (орган расейскае рэакцыі) і газ. „Новая Искра“ (прагрэсыўны) ў апошні час пачалася палеміка. Палеміка паміж канкуруючымі расейскімі газэтамі нас бы не цікавіла, каб ў гэтую палеміку не было-бы замешана беларускае царкоўнае пытаньне.

Беларускае праваслаўнае грамадзянства не забылася яшчэ тых злосных выпадаў, тых інсынуацыяў і таго бруду, якія вылівала на беларускія праваслаўныя арганізацыі газ „Наше Время“, родная сястра „Русскаго Слова“, выдаваная тым-ж самым п. Котлярэўскім. Што ёсьць самага рэакцыйнага, самага чорнасоценнага сярод расейскага грамадзянства ў Польшчы, ўсё гэта гуртуецца каля „Русскаго Слова“; да яго прымыкае і рэакцыйная група расейскага праваслаўнага духавенства.

Расейскі рэакцыйны элемэнт мае вялізарныя ўплывы ў Праваслаўнай Царкве ў нашых епархіях лічучы, што Царква гэта аддзіная рэальная пляцоўка для працы па „возрожденію единой и недѣлимой“. Страціўшы грунт на Валыні, гэная група зьвярнула ўсю сваю ўвагу на нашыя епархіі, а асабліва на Віленскую і Горадзенскую.

Царкоўны быт гэных епархіяў мае выключна расейскі характар, мала таго, Царква ў руках гэных дзеячоў „русскаго дѣла“ стала аружжам русыфікацыі вернікаў Царквы, якія складаюцца ў 95 прац. з беларусаў.

Усе выступленьні беларускага праваслаўнага грамадзянства і беларускае прэсы ў справе Царквы заўсёды ігнараваліся. Лёс Царквы прыносіўся ў ахвяру „русскаго дѣла“, з пункту гледжаньня самай чорнай расейскай рэакцыі.

Уплывы гэнае групы на сваіх аднадумцаў сярод праваслаўнае ерархіі і духавенства давялі ў нашым краі да пашырэньня сэктанства, няверра і бязбожжа сярод народных масаў вернікаў праваслаўнае Царквы. Царква стала траціць належны ёй аўтарытэт і значэньне; і калі ня дайшло да пэўнага развалу, то ад гэтага ўратавала Царкву кансэрватыўнасьць беларускага народу, які лічыў і лічыць Царкву адною з сваіх нацыянальных традыцыяў.

На такое палажэньне Царквы, русыфікатарскую працу сярод беларускага народу за пасярэдніцтвам Царквы, зьвярнулі нарэшце сваю ўвагу дзяржаўныя ўлады. Вынікам гэнага была забарона ўжываньня расейскае мовы ў духоўных установах і пры выкладаньні Закону Божага ў школах, дзе вучацца дзеці беларускага народу.

Расейская рэакцыя, каб ня страціць сваіх ўплываў ў Царкве, робіць рашучы паварот у сваёй царкоўнай палітыцы. Ува ўсіх духоўных ўстановах яна ўводзіць зусім дабравольна, без ўсялякага прымусу з боку ўладаў, — польскую мову; найбольш расейскія бацюшкі пачынаюць выкладаць Закон Божы ў польскай мове, а самыя спрытныя пачынаюць памалу ўводзіць польскую мову, як багаслужэбную.

Народу тлумачыцца, што гэнага вымагае ўрад, на які такім чынам складаюць ўсю адказнасьць, новазьявіўшыяся „польскія патрыёты“ за сваю разбураючую працу ў Царкве.

Зрабіўшы гэны свой архілёяльны шаг у адносінах да Дзяржавы, яны здолелі і надалей утрымаць свае ўплывы ў Царкве; полёнізацыя быту Царквы, паводле слоў, ім не страшна, бо ня пройдзе і разам ўзмоцніць варожыя настроі насельніцтва ў адносінах да Дзяржавы. Для „русскаго дѣла“ страшна беларусізацыя быту, бо гэтым павышаецца сьведамасьць народных беларускіх масаў, і парываецца іх сувязь з царскай Расеяй. Што такая палітыка ад'емна адбіваецца на аўтарытэце Царквы, паніжае яе значэньне сярод праваслаўных беларускіх масах, гэта для гэнай расейскай групы ніякага значэньня ня мае. Лёс Царквы іх цікавіць пастольку, паскольку Царква можа служыць „русскому дѣлу“.

Вось, калі частка расейскай інтэлігенцыі, не чорнасоценна-шовіністычная, а нацыянальна-здаровая падняла свой голас ў абароне Царквы, то супроць газ. „Новая Искра“, якая адважылася праводзіць гэную думку, газ. „Русское Слова“ павяла самую злосную кампанію

Са здарова-нацыянальным элементам расейскага грамадзянства, якое разглядае Царкву ня з боку чорнасоцена, - шовіністычных настрояў, былых царскіх вураднікаў, мы беларусы заўсёды знойздем агульную мову.

Гэная частка расейскага грамадзянства, як і беларускае праваслаўнае грамадзянства хоча бачыць сваю Царкву моцнаю і ўплывовую, якая зможа і будзе выконваць свае заданьні — выхоўваньне народных масаў у хрысьціянскім духу — і будзе рашуча спраціўляцца пашырэньню сярод верных раскладаючых ідэяў і ўплываў. Монапалізацыя расейскае прэсы ў руках чорнасоценна-шовіністычных элемэнтаў дало магчымасьць газ. „Русское Слово“ выказваць свае думкі, быццам ад усяго ра-

# Памяць аб праф. Карскім.

*(Да 5-тых угодкаў яго сьмерці).*

Яшчэ раз—і нажаль апошні — я пабачыўся з Карскім, калі ён вярнуўся па свой другі пакунак у гасьцініцу „Гарні“, на Багадзельнай вуліцы. Палажэньне маё выглядала ўжо зусім опэрэтачным. З васьмёх сяброў Вайсковае Камісіі быў на месцы адзін толькі капітан Я-кі.

Ня ў прыклад з іншымі сустрэчамі, гэтая наша апошняя сустрэча з Карскім і разьвітаньне з ім было для мяне даволі сумным. На самай глыбіні беларускага палітычнага віру ў Менску, праз кароткі час, мы сустрачаліся разам: з аднаго боку вялізны карабель—Карскі, якому, зусім зразумела, былі бліжэйшымі вялікія, хоць і скаламучаныя ды закрываўленыя бальшавізмам, расейскія воды, надходзіўшыя на Менск, а з другога боку—я, вутлы човен, якому раднейшаю здавалася наша беларуская мелкаводнасьць, дзе, як пасьля аказалася, і чаўну нават ня штука сесьць на мель... Развал і паніка ўжо заўважвалася ў Вайсковай Камісіі з самае раніцы памятнага дня. Гэта не магло ўцячы ад мудрага вока праф. Карскага, зайшоўшага туды па свой паёк. І я веру, што яму шчыра шкада было мяне ў ролі вартаўніка пусьцеўшае з кожнаю мінутаю няўдалае беларускае ваеннае сцэны. Ен ізноў прапанаваў мне прытулішча ў сваёй кватэры, каб ўратаваць мяне ад магчымых жахаў першай бальшавіцкай хвалі. Я адказаў, што ніколі не пазволіў-бы сабе падводзіць яго пад вялікую рызыку адказваць за ўкрываньне беларускага „белагвардзейца, контррэвалюцыянэра“ і г. д., калі-б нават змушаны быў у Менску астацца. Цяжка было гаварыць. Нешта рвалася ў сэрцы маім, меўшым да прафэсара моцную прывязанасьць заўсёды, а тут выступіўшую з усёю сілай. Прафэсар пераконваў мяне, што ў Менску ня страшна яму аставацца, зазначыў гэта лёгка, як быццам прыказкаю нават, што „ня гэткі страшны чорт, як яго малююць“.

Я папрасіў Карскага сесьць і адпачыдь крыху. Ен сумна паглядаў на мяне ў часе гэтай апошняй гутаркі.

Можа сваім павядзеньнем у той мамэнт я зрабіў адну-адзіную нявольную прыкрасьць у сваім жыцьці прафэсару Карскаму, непайшоўшы насустрэчу яго думцы? Хай даруе мне яго сьветлая душа!

Я выклажыў яму тое, што тады думаў, зусім шчыра.

Ход гэтых думак быў большменш гэткім:

Нашыя вайсковыя аддзелы, хоць быўшыя толькі ў завязі (адна кампанія салдатаў у некалькі дзесяткоў чалавек), як-ніяк зьяўляліся калі не складоваю часьцю героічнае Польскае Арміі, дык нейкім да яе прыдаткам. Армія гэта перажывала свае „чорныя дні“ адступленьня. Ці-ж ахвотнікам у беларускія аддзелы я паступіў толькі на тое, каб у трудны мамэнт стаць дэзэртырам? Ідэя вызваленьня Польшчы, а пры яе падмозе і Беларусі, была тады не аднаму мне куды бліжэйшай за нічым няпрыкрытую ідэю Троцкага заліць бальшавіцка-расейскаю навалаю і Беларусь і Польшчу. Я параўноўваў дзьве рэальныя сілы, якія тады бароліся на беларускай зямлі.

Польшча паўстала да жыцьця самастойнай дзяржавы, дзякуючы мудрай тактыцы барацьбіта-рэвалюцыянэра Язэпа Пілсудскага, у дадзены мамэнт ужо Начальніка гэтай дзяржавы і Галоўнага Павадыра ўсіх яе збройных сілаў.

Бальшавізм ужо вядомы быў голым гвалтам над воляю Беларусі — разгонам Усебеларускага Зьезду.

Калі бальшавікі нешта дэмагогічна і бубнілі пра самаазначэньне народаў, дык „азначаць“ гэтыя народы стараліся сваім тэрорам. Адозва Начальніка Польскай Дзяржавы Язэпа Пілсудскага да жыхароў былога Вялікага Князьства Літоўскага за 24 красавіка 1919 году прамаўляла да беларускай душы шмат выразьней

Вялікі аўтор гэтай адозвы, ў орэоле славы ад бліскучых перамогаў над бальшавіцкаю чырвонаю арміяй, без параўнаньня больш імпанаваў беларускаму сэрцу, як бальшавіцкі *главковерх* Леў Троцкі—кат расейскай рэвалюцыі і ўсіх прынесеных ёю неапісальных свабодаў, якімі ўпіваліся мільёны людзей пры каротка-часовай „бязрэжымнасьці“ Керэнскага...

Па якім баку стаць у гіган-

сейскага насельніцтва.

Зьяўленьне газ. „Новая Искра" паказала, што ня ўся расейская інтэлігенцыя тут ў нас чорнасоценная.

„Русское Слово" у сваёй інсынуацыі на газ. „Новая Искра" ізноў паўтарае старыя байкі, быццам беларусы ў першую чаргу вымагаюць замены царкоўна-славянскай мовы на беларускую; але пры гэтым абсалютна апушчае факт, што іх аднадумцы ўжо даўно замянілі царкоўна-славянскую мову *на польскую*.

Разыходжаньне расейскай апініі на ролю Царквы ў нашым краі пойдзе толькі на карысьць самой Царкве, з тым толькі вынікам, што ўсім чорнасоценцам прыдзецца адыйсьці ад кіраўнічае ролі ў Царкве і спыніць сваю дэмаралізуюча-разбурваючую працу.

*У. Б.*

## Пленарнае паседжаньне Сойму.

16 чэрвеня раніцай адбылося пленарнае паседжаньне Сойму, на якім разглядаліся законапроекты, зацьверджаныя соймавымі камісіямі. На паседжаньні былі прысутнымі сябры ўраду на чале з прэм'ерам. Законапроекты аб ратыфікацыі мытнага дагавору былі прыняты бяз дыскусыі. Дакладчык па законапроекту мытнага дагавору з СССР, дэпутат Качкоўскі, падчыркнуў, што гандлёвы абарот у выніку гэнага дагавору аблічаецца на 9,5 мільёнаў зл., прычым вартасьць савецкіх заказаў ужо недалёка ад гэтай лічбы.

Дакладчыца па законапроекту аб ратыфікацыі тарыфнага польска-нарвэжскага дагавору, дэпутатка Пэлчынская, зрабіла заўвагу, што Польшча ў гандлі з Нарвэгіяй мае актыўны білянс. У 1935 годзе сальдо на карысьць Польшчы асягнула 9 з паловай мільёнаў. Сальдо з Эстоніяй таксама зьяўляецца дадатнім.

Бяз дыскусыі былі прыняты законапроекты аб дадатковых крэдытах на 1936/37 г.

## Монархістычны рух у Аўстрыі

У Аўстрыі ў апошнія дні наглядаецца ўзмацненьне монархістычнага руху. Аўстрыйскія гарады і сёлы адны за другімі прызнаюць Отто Габсбурга сваім ганаровым грамадзянінам, што ў палітычных кругох разглядаецца, як дэманстрацыя адданасьці монархістычнай ідэі.

Шмат гутарак выклікала перадавіца ў паўофіцыяльнай газэце „Рэйхспост". У гэтым артыкуле падчырківаецца, што аўстрыйскі ўрад зусім ня імкнецца да рэстаўрацыі Габсбургаў. Аднак, газэта робіць заўвагу, што насельніцтва Аўстрыі лятуціць аб увядзеньні ў Аўстрыі монархіі. Па думцы „Рэйхспосту", пытаньне аб рэстаўрацыі монархіі зьяўляецца чыста ўнутранай справай Аўстрыі, прычым гэта рэстаўрацыя не заключае ў сабе ніякай небясьпекі для суседніх дзяржаваў і не цягне за сабой ніякіх імпэр'ялістычных рэзультатаў. Артыкул канчаецца словамі: „Калі Аўстрыя спрацівалася таму, каб у яе справы ўмешваўся блізкі па крыві народ Рэйху, дык яна вяла барацьбу не для таго, каб яе сувэрэнітэт быў агранічаны суседнімі дзяржавамі".

Бязумоўна, што аўтар артыкулу мае тут на думцы дзяржавы Малой Антанты.

## Дэклярацыя ангельскага габінэту аб санкцыях.

„Дэйлі Тэлеграф" паведамляе, што на паседжаньні палаты гмін, якое адбудзецца 19 гэтага месяца чэрвеня, будзе абвешчана дэклярацыя аб тым, што ангельскі ўрад пастанавіў адмяніць санкцыі проціў Італіі.

З выясьненьнем прычынаў, якія змусілі ўрад прыняць гэтае рашэньне, выступяць прэм'ер Бальдвін і мін. Ідэн. Апошні будзе абасноўваць думку габінэту, што далейшае трываньне санкцыяў ня мае законных падставаў і апрача таго, усё роўна не прывядуць да намечанай мэты.

У гаспадарчых кругох Сіці рыхтуюцца да абнаўленьня гаспадарчых адносінаў з Італіяй і нават гавораць аб удзяленьні Італіі значнай пазыкі на ангельскім рынку. Аднак, перагаворы аб гэткай пазычцы маглі-б пачацца толькі пасьля таго, як канчальна выясьніцца праблема Міжземнага мора.

У дыплёматычных кругох Лёндану кажуць, што выясьняючы становішча ангельскага ўраду ў парляманце, Ідэн дасьць паняць Італіі, што было-б пажадана з яе боку заяўленьне аб тым, што яна ў Абісініі будзе трымацца таго-ж рэжыму, які праводзіцца ў мандатных краінах і што яна гатова прыняць актыўнае ўчасьце ў стварэньні сыстэмы колектыўнай бясьпечнасьці ў Эўропе.

## Савецкія комбінацыі ў Францыі

Забастовачны рух рабочых у Францыі, які прыняў нязвычайныя разьмеры, паступова пад уплывам ураду ліквідуецца.

З асьведамленых крыніцаў паведамляюць, што чуткі аб учасьці „Чацьвертага Інтэрнацыяналу" ў забастовачным руху ў Францыі і другіх дзяржавах Заходняй Эўропы пашыраюцца кругамі, блізкімі да комінтэрну, з мэтаю адвярнуць сусьветную ўвагу ад дзейнасьці агентаў Трэцяга Інтэрнацыяналу і скінуць з сябе адказнасьць за забастоўкі і безпарадкі на няіснуючы „Чацьверты Інтэрнацыянал".

## Перамога нанкінскага ўраду.

У мінулым нумары мы пісалі аб напружаным палажэньні ў Кітаі, якое магло вельмі лёгка выклікаць хатняю вайну. Сяньня, са слоў кітайскіх корэспондэнтаў, можна сьцьвердзіць, што сытуацыя вельмі зьмягчылася ў выніку цьвёрдай пазыцыі Нанкіну і нязгоды ў паўдзённа-заходняй групіроўцы Ві даць, усё забурэньне скончыцца компрамісам між Нанкінам і паўдзённа-заходнімі лідэрамі, якія паслалі нанкінскаму ўраду тэлеграму, у якой офіцыяльна паведамляюць аб выхадзе сваіх войск з правінцыі Хурань. Адначасна з гэтым яны дамагаюцца, каб нанкінскі ўрад спраціўляўся японскай агрэсыі, іначай „унутраная барацьба рана ці позна станецца неабходнай, бо народ паступова асьведамляецца ў тым, што спраціўленьне японскай агрэсіі зьяўляецца адзіным ратункам для краю".

## Чаму Швайцарыя не прызнае СССР.

Як пішуць газэты, швайцарская нацыянальная рада большасьцяй галасоў адкінула прапазыку аб наладжаньні дыплёматычных адносінаў між Швайцарыяй і СССР. Гэтай пастанове папераджала выступленьне міністра замежных справаў Мотта.

Мотта сказаў, што швайцарскі ўрад не забараняў паасобным людзям гандляваць з Савецкай Расеяй. Урад нават жадае разьвіцьця гэтых адносінаў, але папераджае купцоў, каб яны ня былі абдурманены ілюзыямі. Учасьце СССР у сусьветным гандлі мінімальнае. Бэльгія прызнала Савецкі Саюз у мінулым годзе. Гаспадарчы рэзультат гэтага прызнаньня расчараваў ўсіх і ван Зеелянд адкрыта прызнаў гэта. Злучаныя Штаты прызналі савецкую ўладу у 1933 годзе пад націскам банкаў і гаспадарчых кругоў. Мэта, да якой яны імкнуліся, не асягнена.

Можа быць, раней ці пазьней Швайцарыя офіцыяльна прызнае СССР, але для гэтага перадусім савецкі ўрад павінен адмовіцца ад безпасярэдняга ці пасярэдняга падтрыманьня камуністычнай прапаганды. У савецкім урадзе і кіраўнічых органах Комінтэрну сядзяць адны і тыя-ж асобы, пануюць адны і тыя-ж ідэі.

Камуністычная тактыка, — казаў далей Мотта — паслугоўваецца самымі дзівоснымі формамі і нюансамі. У апошні час Комінтэрн маніцца выклікаць рэвалюцыю ў лацінскіх дзяржавах Паўдзённай Амэрыкі. Няправільным зьяўляецца цьверджаньне, што толькі Швайцарыя ня прызнае СССР. Такую-ж палітыку праводзіць і Голяндыя, Португалія, Югославія і 20 рэспублікаў Паўдзённай і Цэнтральнай Амэрыкі.

Сусьветнае палітычнае палажэньне забараняе Швайцарыі зрабіцца міжнародным прапагандовым цэнтрам пад прыкрыцьцём дыплёматычных прывілеяў і нятыкальнасьці.

У дадзеных абставінах прызнаньне Савецкага Саюзу Швайцарыяй адчыніл-б-а шлях для цэлага раду міжнародных авантураў.

## З правінцыі

**Есьманоўцы**, Маладэчанск. пав.

Жыхары нашае вёскі ўжо даўно рабілі спробы, каб ператварыць істнуючую ў нашай вёсцы польскую пачаткавую школу на беларускую, бо ж навучаньне беларускіх дзяцей у малазразумелай для іх мове давала вельмі слабыя рэзультаты.

Усе бацькі нашых школьнікаў перакананы, што навука ў роднай беларускай мове дасьць шмат лепшыя вынікі—і часу дзеці менш страцяць і больш навучацца.

Вось дзеля чаго, прачытаўшы ў „Родным Краі", што Тав. Бел. Асьветы высылае сваіх дэлегатаў на месца дзеля выясьненьня ўсіх зьвязаных з школьнаю справаю фармальнасьцяў, бацькі дзяцей нашае вёскі зьвярнуліся ў Вільню з просьбаю прыслаць такога дэлегата. З прыемнасьцяй павінны падкрэсьліць, што на нашую просьбу атрымалі вельмі хутка паведамленьне, што дэлегат прыедзе і сапраўды 14 гэтага чэрвеня раніцою мы мелі ўжо ў сябе віленскага дэлегата—гр. Р. Астроўскага – Дырэктара Віленскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі.

Гр. Астроўскі падрабязна расказаў як і што трэба зрабіць, каб атрымаць беларускую школу, зазначаючы пры гэтым, што нашыя нараканьні на тое, што ўлады нам ня хочуць даць белар. школы ня зусім слушныя, бо-ж у гэтым ёсьць вялікая доля і нашай віны.

Нашыя вяскоўцы, як і шмат дзе ў іншых мясцох, рабілі захады аб адчыненьні бел. школы яшчэ у 1925-26 годзе, але, спаткаўшыся з перашкодамі, не павялі гэнае справы далей пры новых уладах, а кончылі тым, што пача-

---

тычнай барацьбе, я выбраў даўно і дабравольна. Мяняць пазыцыю лічыў нячэсным...

Але ўсё гэта была палітычная аргумэнтацыя і Карскаму выразна было цяжка мяне слухаць. Дасюль мы гаварылі заўсёды аб беларускай мове, аб нашай літэратуры ды навуцы. Ніводнае няяснае для мяне пытаньне аб зьявішчах у нашай мове, праф. Карскі ніколі не пакідаў без адказу, шмат чым падзяліўся са мною з свае вялікай веды.

Помню томны, быццам бацькаўскі, маўклівы пагляд вачэй Карскага на мяне, калі я абгрунтоўваў сваю пазыцыю з гумарам вісельніка (мне не ставала да поўных 29-ех гадоў паўтара месяца, а Карскі аказваецца, быў за мяне старэйшы гадоў на 30, хоць старым ён тады не выглядаў).

Нарэшце і мой, бытавы такі, але, ў дадзенай абстаноўцы, моцны аргумэнт вайскова-этычнага характару. Я расказаў Карскаму, што, пакуль чакаў яго павароту, дык капітан Я-кі спытаўся ў мяне на чатыры вочы:

— Макар! ты астаешся, ці выяжджаеш?

— Выяжджаю... што за пытаньне?

— Чэснае слова афіцэра?

— Так, пане капітане...

Я нават паясьніў, што атрымаў ад кап. Я-га на дарогу запрапанованыя ім 1000 марак (цяперашнія 100-150 злотых, але фактычная вартасьць гэтых грошай тады азначэньню трудна паддаецца: з мае жонкі пад вечар за стары, падзёрты кошык, велічыні сярэдняга чэмадана, садрала нейкая мяшчанка цэлых 300 марак).

Мы разьвіталіся з Карскім, шчыра жадаючы адзін аднаму ўсяго найлепшага. Хто-ж мог тады падумаць, што разьвіталіся назаўсёды?!...

Назаўтра, г. зн. 9-га ліпня 1920 г., раніцай, бяз ніякага асабістага багажу, без плашча нават, з вялізным Кольтам пры боку, я з Менску выехаў...

Асеўшы ў Вільні з паловы траўня месяца 1921 году, дачуўся я, што праф. Карскі на тым баку рыскае мяжы жыў і здароў. Некім нават была пушчана дзейка, што бальшавікі адразу далі яму асаблівую магчымасьць пераехаць у Петраград, адвёўшы на гэта спэцыяльны цягнік з паравоза і аднаго вагона. Ня ведаю дасюль, ці гэта праўда? А хто ведае, ці не паехалі-б мы на бальшавіцкім „*черном вороне*" разам, на менскую Камароўку ці на *луну* адразу, калі-б я прафэсара паслухаў і ў яго хаваўся?

Неяк у 1926, здаецца, годзе я бачыў сваімі вачыма выдрукаваны якраз той том яго працы, які ў 1920 годзе ляжаў у яго на стале, ў рукапісе. Перакідаючы карткі гэтага тому, я заўважыў, што там надрукована і тое-сёе з напісанага ды апублікаванага мною ўжо тут, у Вільні. Ці-ж трэба дадаваць, што я рад быў з некаторага духовага контакту з вялікім вучоным? У Менску-ж я прасіў яго, пры ацэнцы мае пісаніны, адносіцца да мяне якнайстражэй...

Ня цэнены, як трэба, ў 1920 годзе ў Менску, праф. Карскі, ня быў таксама цэнены і сваімі, наскора ахварбованымі, беларускімі бальшавікамі там пазьней. Як і даўней, ён працаваў, здаецца, больш у Петраградзе.

А ў Менску?

Давялося мне неяк чытаць „Полымя". Колькі ненавісьці да Карскага выліў у гэтым журнале малаасьвечаны наагул, хоць і горды сваім тытулам „першага беларуска-пролетарскага пісьменьніка", Жылуновіч (Цішка Гартны)! Колькі зайздрасьці і галаслоўных закідаў чарнасоценства ў словах савецкага „вучонага" Дзяржынскага (дарэчы сказаць былога нашага вурадніка Вайсковай Камісіі—Чаржынскага)!

А тымчасам нідзе і нікім не даказана прыналежнасьць праф. Карскага да якое-небудзь чарнасоценнае групы. Адно ясна: ніякага монархічнага, як і ніякага, зусім зразумела, марксіцкага падходу да свае вялікае навуковае працы праф. Карскі не рабіў, нічых, модных у бальшавікоў, *сацыяльных заказаў* не выпаўняў.

Перайшоў пяць гадоў назад за межы дасягальнасьці ўсякіх рэжымаў і чалавечых інтрыгаў.

Пакінуў Беларусі каштоўны прадукт свайго працоўна-навуковага жыцьця.

І гэта хіба найлепшы для яго памятнік, збудаваны ўласнаю яго ведаю і шматгадовымі трудамі.

*Краўцоў Макар.*

Канец.

